# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 21 (1671) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 22 МАЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.




Мост на рэчцы Нарве каля Плёсак. Фота Я. Целушэцкага.

## ДРУЖБА НЕ ТОЛЬКІ НА СЛОВАХ

Па ініцыятыве Таварыства сувязі з палякамі заграніцай „Палонія" ў Варшаве адбылася 14 красавіка сустрэча дэлегацыі савецкага Таварыства „Родина" з Масквы з прадстаўнікамі таварыстваў нацыянальных меншасцей у Польшчы. Савецкую дэлегацыю ўзначальваў першы намеснік старшыні Таварыства „Родина" Мікалай Панкоў. З боку Украінскага грамадска-культурнага таварыства прыняў удзел у сустрэчы сакратар ГП Аляксандр Гнацюк, а ад імя Беларускага грамадска-культурнага таварыства прынялі ўдзел упаўнаважаныя Прэзідыумам ГП Мікалай Аляксеюк і Хведар Галёнка, абодва члены ГП.

Прадстаўнікі таварыстваў нацыянальных меншасцей інфармавалі савецкую дэлегацыю пра дзейнасць, удачы і перашкоды ў ёй, а таксама выступілі з шэрагам прапаноў наконт узаемных сувязяў і магчымасцяў шырэйшага абмену. Гаварылася пра пастулат, згодна якому члены Беларускага і Украінскага таварыстваў маглі б пабываць у дамах адпачынку Таварыства „Родина", пасылаць сваіх дзяцей у беларускія і ўкраінскія летнія лагеры.

Савецкія прадстаўнікі заявілі, што поступ „перестройки" будзе спрыяць ліквідацыі бюракратычных перашкод, што пашырацца сувязі „Родины" з Беларускім грамадска-культурным таварыствам. Будзе нам больш дапамогі з Мінска. Аднак жа нельга нам толькі чакаць, заклаўшы рукі. Добра было б, калі б Галоўнае праўленне БГКТ і Галоўнае праўленне УГКТ выступілі з прапановамі выезду сваіх афіцыйных дэлегацый у сталіцы БССР і УССР для поўнай абмяркоўкі супрацоўніцтва з рэспубліканскімі філіяламі „Родины". Дарэчы, украінская дэлегацыя з Польшчы ўжо знаходзіцца ў Кіеве дзеля ўступных перамоваў.

М. А. Панкоў лічыць, што існуюць ужо ўсе рэальныя падставы для павелічэння прыватных выездаў грамадзян Польшчы ў БССР і УССР ды наадварот. Адбываецца рэдукцыя фармальнасцей. Панкоў гаварыў у сваім выступленні аб нядаўнім візіце ген. Войцеха Ярузельскага ў СССР, які пазнаёміўся пры гэтай нагодзе з жыццём і праблемамі польскай нацыянальнай меншасці ў Літоўскай ССР. У Савецкім Саюзе адбываюцца ўжо элімінацыі выканаўцаў польскай песні, фінал якіх прадбачаны ў Віцебску. У Маскве адкрыты Дом польскай культуры.

Хведар Галёнка

## ІНЖЫНЕР РАМЕСНІК РАДНЫ

**(Інтэрв'ю дае Юзаф Эльясевіч — намеснік старшыні ВРН)**

Гэта высокі, плячысты, мажны, але ўжо і пасівелы мужчына, з шыракаватым, добразычлівым тварам, але з пранізлівым, рашучым позіркам.

— Вы — інжынер-электраэнергетык па адукацыі, рамеснік — па выбару і грамадскі дзеяч — па прызванню, — звярнуўся я да Юзафа Эльясевіча. — Скажыце нам, як усё гэта сплялося ў вашым жыцці?

— Я — ад роду беластачча́нін, — з гордасцю заяўляе наш госць. — Род наш закараніўся ў горадзе над ракою Белай даўным-даўно. І я таксама Беластоку не здрадзіў. Толькі на кароткі час, каб закончыць вышэйшую школу, падаўся я ў Варшаву, але ў 1956 годзе — ужо з дыпломам інжынера — вярнуўся дамоў і 1 студзеня 1957 года адкрыў у Беластоку свой уласны, прыватны рамесніцкі пункт па выконванню ўсялякіх электраўстановак.

— Значыць, мінула ўжо 30 гадоў дзейнасці вашай фірмы...

— Я б сказаў, што за мною 30 гадоў мазолістай працы і нястрыннага змагання за ранг рамяства. Калі я пачынаў сваю рамесніцкую дзейнасць, дык наша бедная, занядбаная Беласточчына ў значнай сваёй частцы не ведала тады яшчэ нават электрычнага святла, а на прыватных рамеснікаў тадышнія ўлады глядзелі як на перажыткі капіталістычнай эпохі. І толькі дзякуючы гамулкоўскай адлізе змог я распачаць сваю дзейнасць. На недахоп работы мая фірма ніколі не наракала.



Інжынер-рамеснік Юзаф Эльясевіч любіць сваю работу і мог бы, зразумела, гаварыць пра яе вельмі доўга. Мне аднак хацелася даведацца, што і калі штурхнула яго ў бок грамадскай дзейнасці. То ж у агульным меркаванні людзей рамеснік гэта чалавек, які перш за ўсё клапоціцца аб павелічэнні ўласнага рахунку, а ўсё іншае да яго не адносіцца.

— Якраз наадварот, — пярэчыць такому меркаванню Юзаф Эльясевіч. — Рамяство ад пачатку свайго існавання засноўваецца на грамадскай актыўнасці рамеснікаў. Прыгадайце сабе арганізацыю рамесніцкіх цэхаў. Яны ж заўжды абарону ўласных цэхавых інтарэсаў спалучалі з грамадскімі і патрыятычнымі мэтамі. Дык добры рамеснік не можа не быць грамадскім дзеячом.

Коратка кажучы, Юзаф Эльясевіч з'яўляецца грамадскім старшынёю рады Беластоцкай рамесніцкай ізбы, якая ў наступным годзе будзе адзначаць 60-годдзе свайго існавання.

Актыўнасць яго ў рамесніцкім самакіраванні (двойчы быў ён нават членам Цэнтральнай рады рамяства) паслядоўна завяла яго ў рады партыі, якая сярод рамеснікаў мае найбольшае прызнанне. Гэта Дэмакратычнае староніцтва.

— Я свядома ўступіў у рады Дэмакратычнага староніцтва, — адзначае Юзаф Эльясевіч. — ПАРП патрабуе ад сваіх членаў атэістычнага светапогляду, а я — чалавек веруючы...

(Працяг на стар. 4)

# НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

Odpowiadając na notatkę prasową „Łyżka dziohciu u dubickim miodzie" zamieszczoną w numerze Waszego Tygodnika z dnia 06 marca br., a dotyczącą niewłaściwej — zdaniem autora — pomocy finansowej z opieki społecznej — Naczelnik Gminy w Dubiczach Cerkiewnych składa następujące wyjaśnienie.

Sytuacja socjalno-bytowa rodzin wymienionych w artykule p. Panfiluka Mikołaja jest dobrze znana władzom gminy. Podnoszony w nim problem, jakoby osoby te nie otrzymywały żadnej pomocy i zainteresowania jest błędny. Co prawda, zgodnie z obowiązującymi przepisami, nie można im przyznać stałych zapomóg finansowych z budżetu pomocy społecznej, a o takie najprawdopodobniej chodzi autorowi notatki, to jednak pomoc materialną otrzymują.

Na wstępie swej wypowiedzi p. Panfiluk opisuje trudną sytuację rodzinną inwalidki I-szej grupy Tomaszuk Marii, mieszkanki wsi Dubicze Cerkiewne. Po przeprowadzeniu postępowania wyjaśniającego ustalono, że Obywatelka zamieszkuje we wspólnym gospodarstwie domowym z mężem. W pracy pomaga też córka z zięciem. Źródłem utrzymania jest gospodarstwo rolne o powierzchni ogólnej 16,70 ha i przychodowości szacunkowej rocznej 288.600 zł oraz emerytura męża z tytułu pracy zawodowej w kwocie 23.234 zł miesięcznie.

Z pracy na roli utrzymuje się także druga osoba wymieniona w notatce — Anna Topor, zamieszkała w sąsiedniej wsi Tofiłowce. Gospodarstwo (powierzchnia ogólna 11,18 ha i przychodowość roczna 170.400 zł) obrabia jednak jej mąż, gdyż dzieci mieszkają i pracują na stałe poza domem rodzinnym.

W opisie stanu rodzinnego wdowy Anny Stepaniuk, mieszkanki wsi Tofiłówce, powstały pewne nieścisłości. W swojej wypowiedzi autor notatki napisał, iż wdowa zamieszkuje z czworgiem maleńkich dzieci. Po zbadaniu sytuacji ustalono, że dwoje z nich osiągnęło już pełnoletność i samodzielność; córka Walentyna pracuje w Szkole Podstawowej w Dubiczach Cerkiewnych jako intendentka, syn Mirosław (lat 22) pomaga matce prowadzić gospodarstwo rolne. Pozostała dwójka uczęszcza do szkoły podstawowej, gdzie starszy syn pobiera stypendium w kwocie 870 zł miesięcznie; najmłodsza córka dopiero rozpoczęła edukację szkolną — jest w klasie przedszkolnej. Głównym źródłem utrzymania tej rodziny jest także indywidualne gospodarstwo rolne o powierzchni ogólnej 11,44 ha i przychodowości rocznej 283.800 zł.

Z tytułu prowadzenia gospodarstw rolnych, znając sytuację tych osób, corocznie dokonuje się umorzeń w spłacie zobowiązań pieniężnych (podatek rolny). W każdym przypadku złożenia wniosku sprawa była załatwiona pozytywnie. Na przestrzeni ostatnich dwóch lat, wnioski o umorzenie zostały złożone dwukrotnie przez rodziny Marii Tomaszuk i Anny Topor i dotyczyły umorzeń IV-tej raty w roku 1986 i w roku 1987. Łącznie w ciągu tych lat umorzono: 14.246 zł rodzinie Marii Tomaszuk i 8.300 zł rodzinie Anny Topor. Natomiast Ob. Anna Stepaniuk w tym okresie nie składała wniosku o umorzenie, stąd też nie było podstaw do zastosowania ulg.

W minionym okresie na terenie gminy oddano do użytku dwa wodociągi grupowe. Objęły one swym zasięgiem m.in. Dubicze Cerkiewne i Tofiłowce. Z tytułu doprowadzenia wody do gospodarstw, rodzinom znajdującym się w trudnej sytuacji materialnej była stosowana pomoc finansowa. O taką pomoc mogły ubiegać się również rodziny opisane przez p. Panfiluka w notatce prasowej. Z przywileju tego nie wszyscy skorzystali, pomimo poinformowania o istnieniu ulg w tym zakresie. Rodzina Marii Tomaszuk otrzymała do zapłaty 18.000 zł. Za opłacenie należności przed terminem zastosowano 20% bonifikatę i wpłacono jednorazowo 14.400 zł. Nadmienia się, że w przypadku wsi Dubicze Cerkiewne, gdzie wodociąg był oddany do użytku do końca 1986 r., obowiązywały niższe stawki opłat. Natomiast gospodarstwa we wsi Tofiłowce zostały podłączone do wodociągu już w roku następnym, tj. 1987 r., stąd też stawki za doprowadzenie wody były naliczane w/g nowych przepisów.

(Працяг на стар. 5)

# СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ




*Старая Гайнаўка. Вуліца Мар'яна Бучка. Мал. У. Петрука.*

# ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА КОНКУРСАЎ...

**ЧАМУ, ЧАМУ, ЧАМУ?**

Пытанні да адказных за правядзенне дэкламатарскага конкурсу для школьнікаў пачатковых школ (аб самым конкурсе чытай: „Зорка" № 15).

Чаму так важнаму конкурсу не прыдаецца належнага значэння і ўвагі? — Цэнтральны яго агляд прайшоў у абставінах шэрасці і пры многіх арганізацыйных недахопах. Чаму на цэнтральным аглядзе ў Беларускім клубе ў Беластоку не аказалася хоць якога-небудзь лозунга, які б інфармаваў аб конкурсе, аб яго тэме, напісанага па-беларуску? Чаму камісія вычытвала ўдзельнікаў па-польску, калі вучні, якія працуюць пад кіраўніцтвам разумных і адданых нашых настаўнікаў, выходзілі і прадстаўляліся нанава, правільна па-беларуску вымаўляючы свае прозвішчы? Чаму не падумалася, каб хоць невялікую выстаўку выданняў „белавежцаў" паказаць з нагоды конкурсу? Іх жа паэзію дэкламавалі вучні. Чаму нельга было запрасіць хоць аднаго-двух, а нават і больш „белавежцаў", каб паказаць дзецям жывых паэтаў ці пісьменнікаў? Чаму нельга было прадставіць на пачатку школ і настаўнікаў, якія рыхтавалі вучняў, якія дайшлі аж да цэнтральнага агляду? Чаму так абыякава, абы збыць, падыходзяць арганізатары да гэтага надта ж для нас, як беларускай грамадскасці ў цэласці, важнага конкурсу? — Павінен жа ён стацца вялікім святам беларускага жывога слова. Чаму ніхто з ГП не паявіўся і не адкрыў па-беларуску агляд у Беластоку? Чаму хоць бы ў вітрыне „Нівы" не паявілася аб'ява аб аглядзе? — напэўна знайшліся б зацікаўленыя людзі і дзеці ў горадзе, ахвотныя паслухаць дэкламацыю паэзіі „белавежцаў" у дасканалым выкананні школьных беларускіх дзяцей! Чаму конкурс гэты робіцца не для людзей, не для публікі, а як бы толькі для саміх сябе? Як жа ж так можна губіць працу і здольнасці дзесяткаў настаўнікаў і вучняў? Чаму хоць бы на цэнтральным аглядзе нельга было паставіць мікрафон? — Вядома ж, што дэкламацыя на гэтым выйграе. Чаму плён дэкламатарскага конкурсу (гэта ўжо, бадай, дзесяты конкурс) не выкарыстоўваецца пры нагодзе розных імпрэз? — людзі ж ахвотна слухаюць беларускія вершы, асабліва ў дзіцячым выкананні. Чаму ўдзельнікі не атрымалі дыпломаў — гэта ж так важная памятка ўдзельніцтва ў конкурсе? Чаму так мала грошай на ўзнагароды дала куратория і ГП БГКТ? Чаму так мала было ўзнагарод, чаму яны былі такія бедныя (ці ж гэта ўзнагарода — танны даўгапіс)? Чаму ўрэшце нельга было падрыхтаваць дзецям хоць аранжаду, каб запілі ў перапынку свае сухія „канапкі", якія яны прывезлі з хаты, не гаворачы ўжо аб гарачым чаі ці нейкіх пончыках? Цэлы ж дзень дзеці прабылі ў дарозе.

Годзе! Беларускі дэкламатарскі конкурс для школьнай моладзі трэба перабудаваць! Ён на гэта заслужыў! Ён з году ў год развіваецца, пашыраецца і моцна расце яго ўзровень. З сёлетняга агляду падам такія два прыклады: з дачушкай — удзельніцай цэнтральнага агляду прыехаў з Клейнікаў бацька. І быў адзіным публічным слухачом. А з Ласінкі вучняў з настаўніцай не ўзялі два чарговыя аўтобусы. Дык дырэктар

(Працяг на стар. 6)

# ІНЖЫНЕР РАМЕСНІК РАДНЫ

(Працяг са стар. 1)

За ім — звыш 25-гадовы партыйны стаж і шлях — ад радавога члена СД — аж да **намесніка старшыні Цэнтральнага камітэта** гэтай партыі. Цяпер ён надалей з'яўляецца грамадскім намеснікам старшыні Ваяводскага камітэта СД у Беластоку.

— Трэцяя плынь вашай грамадскай актыўнасці — гэта дзейнасць у радах нарадовых, што сёння нас асабліва цікавіць.

— Мае сябры па рамяству і па партыі гадоў нейкіх 20 таму назад прапанавалі маю кандыдатуру на раднага Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку. Быў я спярша членам Камісіі ВРН па справах дробнай вытворчасці, пасля даручылі мне абавязкі намесніка старшыні гэтай Камісіі, а затым — радныя ВРН двух апошніх скліканняў выбіралі мяне на аднаго з намеснікаў старшыні свайго Прэзідыума...

— Дазвольце напомніць, што вы яшчэ і старшыня **Калектыву радных ВРН па справах нацыянальных меншасцей.** А практычна беручы, на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства існуе толькі адна ды і не такая ўжо малая нацыянальная меншасць — гэта беларусы. Якімі праблемамі гэтай нацыянальнай меншасці займаўся Калектыў радных ВРН пад вашым старшынствам?

— Калектыў радных ВРН па справах нацыянальных меншасцей быў створаны, каб разглядзець шмат якія прапановы і патрабаванні, паступіўшыя ў адрас Прэзідыума ВРН у Беластоку ад Галоўнага праўлення БГКТ. Калектыў гэты дзейнічаў у 1986 годзе. Разглядалі мы прапановы адносна апрацоўкі праграмы навучання беларускай мовы, адносна забеспячэння падручнікамі і дапаможнікамі, адносна падрыхтоўкі настаўнікаў беларускай мовы, — Юзаф Эльясевіч гартае таўставатую падшыўку дакументаў. — Ішла гаворка аб пабудове новых школ, гаварылася аб магчымасцях прыгранічнага абмену між Беластоцкім ваяводствам і Гродзенскай вобласцю, аб паездках у БССР інструктараў мастацкай самадзейнасці, аб фінансавай дапамозе мастацкім самадзейным калектывам. Ставілася справа ганарараў для беларускіх аўтараў, магчымасцей павелічэння доступу да друку кніжак на беларускай мове, арганізацыі ў Беластоку агляду дасягненняў мастацкага руху ўсіх нацыянальных меншасцей у Польшчы, дыскутавалі аб дапамозе Грамадскаму камітэту пабудовы музея ў Гайнаўцы, гаварылі аб патрэбе шырэйшай прапаганды праблем беларускай нацыянальнай меншасці ў мясцовай і цэнтральнай прэсе, ды ў праграмах радыё і тэлебачання, разглядалі прапановы, каб ваяводскія ўлады болей дбайна і патрабавальна адносіліся да патрэб насельніцтва ў паўднёвай і ўсходняй частцы Беласточчыны, дзе мно-

ПОМНІКІ КУЛЬТУРЫ

# Могільнікавая царква Івана Багаслова ў Паўлах



Паўлы — вёска рыбалаўскага прыхода. даўней пісаліся Паўлавічы, назва ад імя Паўла, з часам скарацілася на Паўлы. З метрыкальных кніг рыбалаўскага прыхода з гадоў 1782-1798 вядома нам, што былі ў Паўлах могілкі, у кнігах памёршых чытаем „пахаваны на могілках паўлаўскіх“.

У 1824 г. па ініцыятыве тадышняга рыбалаўскага настаяцеля Льва Маркевіча была збудавана на могілках царкоўка. Драўляная, на каменным фундаменце, з вежай, на якой былі два званы. Службу ў ёй праводзілі свяшчэннікі з Рыбалаў, у святочныя дні звязаныя з мясцовай традыцыяй.

Адрамантаваная ў 1869 г. У наступны год жыхар вёскі падараваў царкоўцы іканастас за 160 рублёў. Пасвянцілі яе ў 1883. У далейшым царкоўка атрымала дары — падсвечнік, ліхтары, літургічную адзежу. У 1911 годзе ёй была перададзена ікона св. Дзмітрыя Салунскага (за 120 рублёў), а сельская абшчына ў Паўлах сабрала 270 рублёў на цынкавую бляху, каб накрыць царкоўку.

У наш ужо час царкоўку адрамантавалі, увялі электрычнае святло. У сярэдзіне і звонку яе памалявалі. Стаіць яна на ўзгорку на могілках, сярод прыгожых дрэў. Прадстаўляе сабой цікавую і мілую кампазіцыю ў вясковым пейзажы.

Тэкст і фота Р.С.



*Паўлаўская царкоўка ў разрэзе. Мал. Б. Рудкоўскіна.*

---

гія вёскі ўжо звычайна абміраюць...

Адным словам, праводзілася абмяркоўка ўсіх тых праблем, якія здаўна не зыходзяць з парэсткі дня амаль кожнага зборышча беларусаў, ад гуртка БГКТ пачаўшы, а на з'ездзе гэтай арганізацыі канчаючы.

— Хачу адзначыць, — заявіў Ю. Эльясевіч, — што для абмяркоўкі гэтых спраў мы заўсёды прасілі на пасяджэнні нашага Калектыву прадстаўнікоў Прэзідыума ГП БГКТ і ў мяне засталося вельмі прыемнае ўражанне ад супрацоўніцтва з дзеячамі БГКТ. Выпрацаваныя намі прапановы і рашэнні мы перадалі ў Прэзідыум ВРН і на гэтым роля Калектыву радных ВРН па справах нацыянальных меншасцей закончылася. Ён спыніў сваю дзейнасць.

— А ці не было б добра, каб у ваяводскай радзе, якая дзейнічае на тэрыторыі з так шматлікай нацыянальнай меншасцю, гэтакі калектыў або і цэлая камісія існаваў пастаянна?

— Я мяркую, што абавязкам ВРН ёсць пастаянная ды аднолькавая турбота аб праблемах усіх грамадзян, пражываючых на тэрыторыі яе дзейнасці, незалежна ад іх нацыянальнасці і веравызнання. Дзякуй Богу, не заўважаецца ў нас міжнацыянальнай і міжрэлігійнай нязгоды. Дык няма патрэбы ўводзіць штучныя падзелы ў рамках ВРН. Справы тых раёнаў Беласточчыны, дзе пераважае беларускае насельніцтва, можна ж разглядаць — залежна ад патрэбы і характару спраў — у кожнай пастаяннай камісіі ВРН. Дык стварэнне нейкай спецыяльнай пастаяннай камісіі па справах нацыянальных меншасцей я асабіста лічу немэтазгодным і неапраўданым. Калі б узнікла нейкая неадкладная патрэба, каб калектыўна вырашыць нейкую канкрэтную набалелую беларускую праблему, дык тады, калі ласка, можна зноў стварыць з кампетэнтных радных калектыў. Такія калектывы, так сказаць, з нейкай нагоды, ВРН стварае даволі часта. У апошні час, для прыкладу, быў створаны спецыяльны калектыў радных для выпрацоўкі магчымасці актывізацыі жыллёвага будаўніцтва ў Беластоцкім ваяводстве. Справа вельмі набалелая. Самі ведаеце, як доўга даводзіцца чакаць маладым людзям уласнай кватэры...

Доўга яшчэ гутарылі мы з нашым госцем аб розных справах.

На развітанне запытаў я ў Юзафа Эльясевіча:

— Ці далі вы сваю згоду на кандыдаванне ў цяперашніх выбарах у рады нарадовыя, якія прадбачваюцца 19 чэрвеня?

— Не, хопіць! — рашуча адказаў Юзаф Эльясевіч. — Трэба ўступіць месца малодшым. Хаця сябры па рамяству і па партыі прасілі мяне, каб кандыдаваў.

— Дык падзяліцеся, калі ласка, з намі сваім вопытам. Чым, па-вашаму, павінна заняцца ў першую чаргу ВРН у Беластоку?

— Перш за ўсё выкарыстаннем і загаспадараннем мясцовых рэсурсаў, тутэйшага нашага багацця. Гэта гліна, пясок і жвір — для будаўніцтва, гэта таксама перапрацоўка садавіны і агародніны. Тое, што ёсць у зямлі, або тое, што кожны год дае нам зямля, трэба выкарыстаць да корня, загаспадарыць і даставіць людзям.

Запісаў В. Рудчык

Фота аўтара

---

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

(Працяг са стар. 4)

Tutaj też. Ob. Anna Stepaniuk opłaciła cały wymiar należności jednorazowo, przed terminem, nie korzystając nawet z rozłożenia należności na raty. Naliczono jej wymiar w wysokości 60.000 zł. Z tytułu prowadzenia gospodarstwa rolnego o powierzchni do 5 ha przeliczeniowych (4,67 ha), otrzymała ustawową 15% obniżkę oraz 20% bonifikatę za wpłacenie całej należności przed terminem. Ostatecznie zapłaciła 40.800 zł.

Tylko rodzina Anny Topor wystąpiła o zastosowanie ulg w tym zakresie. Naliczony wymiar w wysokości 60.000 zł pomniejszono o 15% obniżki z tytułu użytkowania gospodarstwa rolnego do 5 ha przeliczeniowych. Ponadto na wniosek zainteresowanych zastosowano 30% ulgę ze względu na trudną sytuację rodzinną. Przypadającą do zapłaty kwotę 35.700 zł rozłożono na 10 rat rocznych.

Na wstępie niniejszego wyjaśnienia zasygnalizowałem o możliwości pomocy z funduszu opieki społecznej. Pomoc taką mogą otrzymać m.in. osoby znajdujące się przejściowo w ciężkiej sytuacji. Może ona być przyznana z urzędu lub na wniosek osoby potrzebującej pomocy a także na wniosek terenowego opiekuna społecznego lub organizacji społeczno-zawodowej. W przypadku osób i rodzin wymienionych w artykule, pomoc można przyznać tylko w formie jednorazowych zasiłków pieniężnych i w naturze. I tak Ob. Maria Tomaszuk w m-cu marcu br. otrzymała zasiłek jednorazowy celowy w wysokości 12.000 zł na zakup pościeli i bielizny. Także dzieciom Ob. Anny Stepaniuk w roku 1986 został przyznany zasiłek jednorazowy w kwocie 6.000 zł z przeznaczeniem na zakup ubrań.

Dodatkowo informuję, że w roku 1987 na pomoc społeczną wydatkowano 1.792.866 zł przeznaczając dla 14 osób zasiłki stałe bądź stałe uzupełniające, dla 4 osób zasiłki okresowe oraz 104 zasiłków celowych, jednorazowych pieniężnych i w naturze.

W przypadku dalszych trudności związanych z prowadzeniem gospodarstw rolnych, istnieje możliwość przekazania ich następcy lub Państwu w zamian za świadczenia rentowe. W chwili obecnej uprawnienia do otrzymania renty uzyskały rodziny Ob. Marii Tomaszuk i Ob. Anny Topor.

Pragnę nadmienić, że już od dłuższego czasu Wasz korespondent terenowy Ob. Panfiluk Mikołaj przekazuje na łamy prasy informacje, które nie są zgodne ze stanem faktycznym. Jest to typowe podważanie, a więc szkalowanie tak trudnej i odpowiedzialnej pracy administracji terenowej. Element autentyczności i wiarygodności informacji jeszcze nigdy nie przewijał się w jego publikacjach. Dlatego też zwracam się z prośbą do Obywatela Redaktora, aby publikacje Mikołaja Panfiluka były drukowane w rubryce polemicznej np. „Czytelnicy piszą” a nie jako wiadomości z pierwszej ręki Waszego redaktora.

Naczelnik Gminy
w Dubiczach Cerkiewnych
inż. Anatol Pawłowski

---

## Афарызмы

На тое даюцца здольным навукі,
Каб лягчэй у жыцці мелі нявукі.

*

Нічым настаўніка навука,
Ды яна і шкодзіць,
Калі ён з навучальнай тэмай
У згодзе не ходзіць.

*

Верная любоў дзяўчат
Часта такою бывае,
Што, як адыдзе хлопец —
Дык як камфора знікае.

Іосіф Карпюк

# ЗОРКА

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

„БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ 88“ ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

## РАЁННЫ АГЛЯД У БЕЛАСТОКУ

У апошнюю суботу красавіка ў будынку Галоўнага праўлення БГКТ адбыўся раённы агляд „Беларускай песні 88“ для школьнікаў. Удзельнічала ў конкурсе каля 60 чалавек з розных школ г. Беластока, з Ляўкова Старога, Нарвы, Гародчына, Ляшукоў, Рыбалаў і Нараўкі. Выступіла 8 салістаў, 6 дуэтаў, 5 вакальных калектываў і дваццаціасабовы хор з Ляўкова.



„Вясёлыя ноткі“ з Беластока. Вядзе калектыў Ала Дубец.

Каля чатырох гадзін будынак ГП БГКТ звінеў папулярнымі беларускімі песнямі. Былі тут і „Купалінка“, і „Чараўніца“, і „Ручаёчак“, і „Бярозы“, але і менш вядомыя, як „Толькі першыя пралескі“, „Белавежская пушча“, „Бацькоўскі парог“ і шмат-шмат іншых.

Амаль усе ўдзельнікі працавалі з вопытнымі інструктарамі — спецыялістамі музыкі. Таму і выступілі вельмі сур'ёзна, са знаўствам справы, спявалі на некалькі галасоў, вельмі акуратна і культурна захоўваліся на сцэне. Розныя былі ў дзяцей галасы, мацнейшыя і слабейшыя, але ўсе ўжо ўмеюць даволі добра валодаць сваім голасам, ведаюць свае плюсы і мінусы, і адпаведна дабіраюць да голасу рэпертуар. Камісія вельмі высока ацаніла ўсе выступленні. Шкада, што рэгуляміи конкурсу не дазволіў пасланць на Цэнтральны агляд усіх удзельнікаў. Камісія мела цяжкасці з выбарам найлепшых.

Удзельнікі ў гэтым годзе вельмі пастараліся таксама, каб прыгожа выглядаць на сцэне. Большасць выступіла ў вышываных нацыянальных уборах. Некаторыя ўдзельніцы вышывалі свае блузачкі самі пры дапамозе сваіх мам, як дзяўчаткі з Нарвы, беластоцкія „Вясёлыя ноткі“ знайшлі для сябе гатовыя прыгожа вышытыя блузачкі і кашулі ў знаёмых, а харысты з Ляўкова падрыхтавалі, як заўсёды на конкурс, новыя блузачкі і спаднічкі.

Цікавым і, напэўна, вельмі карысным на гэтым аглядзе быў інструктаж, які даваў пасля кожнага выступлення інструктар Ваўводскага дома культуры, член журы Сцяпан Копа. Пасля кожнага выкананага нумара ён выказваў свае ўвагі ўдзельнікам, хваліў іх за добрае, звяртаў увагу на недахопы, каб направіліся ў наступных выступленнях. Думаю, што ўдзельнікі выкарыстаюць у далейшым парады вопытнага спецыяліста. „Галоўнае, — падкрэсліваў Сцяпан Копа, — умець перадаваць свае пачуцці публіцы. Песня — гэта размова выканаўцаў з гледачамі. У час спявання трэба шукаць кантактаў з публікай.“



Квартэт з Нарвы: сёстры Івона і Агнешка Зубрыцкія і Эва і Кася Карабкевічы.



Акардэаніст Кшыштоф Сухадола з Ляўкова.

А вось вынікі конкурсу.

З малодшай групы 0—III класаў выступіла адна ўдзельніца — трэцякласніца Ніка Бандарук. Ёй было прызнана другое месца.

Першае месца сярод салістаў старэйшых дзяцей (4—8 класы) заняў Адам Жарначук з Рыбалаў. Два другія месцы — Марыя Аліфер з Ляўкова і Кшыштоф Тарасюк з Беластока, а два трэція — Марта Вераль з Беластока і Пятрусь Каліноўскі з Нараўкі.

Сярод дуэтаў I месца заваявалі Маргарыта Юшчук і Эва Хвапчэўская з Беластока, II месца — тры дуэты: Івона і Агнешка Зубрыцкія з Нарвы, Каця Рэент і Каця Бандарук з Ляшукоў і Аня Богус і Іра Копа з Беластока. III месца — сёстры Эва і Кася Карабкевічы з Нарвы і Эва Ласкевіч і Кшыштоф Тарасюк з Беластока.

Найлепшымі з калектываў аказаліся „Вясёлыя ноткі“ з Беластока (музычны кіраўнік Ала Дубец) і інструментальна-вакальны калектыў з Ляшукоў (вядзе настаўнік Янка Ціванюк). Ім прызнаны першыя месцы. Два другіх месцы занялі квартэт з Ляўкова і трыо з Ляшукоў. Трэцяе месца заваяваў квартэт з Нарвы.

(Працяг на стар. 10)

## 26 МАЯ — ДЗЕНЬ МАЦІ

Паўлюк Трус

*Дарагой матулі прысвячаю*

### НЕ ЗАСНІ, ПАБУДЗІ МЯНЕ РАНА

(Урывак)

Не заспі,
пабудзі мяне рана,
о!.. мая
дарагая матуля!..
Дзе дарогі
бягуць за курганам,
пойдзем зелле
збіраць мы на Яна...
Толькі ты
пабудзі мяне рана,
о!.. мая
дарагая матуля!

Пабудзі,
як будзіла ў маленстве,
калі крылася
поле туманам...
Над абліччам маім
ды заспаным
ты снавала
да сонца —
ой, рана —
пражу сноў
залатога маленства.

. . . . . . . . .

Там, дзе сцежкі
бягуць за курганам,
пойдзем краскі
збіраць мы на Яна, —
не заспі,
разбудзі мяне рана,
дарагая
мая матуля!
Паглядзім,
як купаецца сонца,
як расой умываецца поле...
Панясём
сваю радасць
раздолле, —
яе ветры развеюць
на волі,
дзе купаецца
ў квецені сонца.

. . . . . . . . .

Глянь на свет,
хай уцешыцца сэрца.
Колькі светлае
радасці сёння!..
У бары сосны
стромкія звоняць,
на гары гай
зялёны гамоніць...
Глянь на свет,
хай уцешыцца сэрца!..

### ШАНУЙЦЕ МАЦІ, ДЗЕЦІ

Шануйце маці, дзеці,
Яна ж адна на свеце.
Кахае вельмі матка
Заўжды сваё дзіцятка.
Таму і мы павінны
Кахаць матуль няспынна.
Найбольш мы цэнім маці,
Калі яе ўжо страцім.
Няма такое крамы,
Дзе прадаюцца мамы.
Шануйце маці, дзеці,
Яна ж адна на свеце!

Віктар Швед

(Працяг са стар. 9)

# РАЁННЫ АГЛЯД У БЕЛАСТОКУ

Выступіў таксама вялікі дванцаціасабовы хор з Ляўкова, які ўжо не раз захапляў слухачоў сваёй інтэрпрэтацыяй беларускіх песень у апрацоўцы настаўніка Васіля Целушэцкага. Хор гэты, як падкрэсліў Сцяпан Копа, ужо шмат гадоў славіць на Беласточчыне беларускую песню. І вядома, хор выступіць на цэнтральным аглядзе.

Як вырашыла камісія, на цэнтральны агляд паедуць усе ўдзельнікі раённага агляду, якія занялі першыя і другія месцы.

Падобныя раённыя агляды адбыліся таксама ў Бельску, Гайнаўцы і Кляшчэлях. З найлепшымі выканаўцамі гэтых аглядаў мы сустрэнемся на цэнтральным аглядзе „Беларуская песня 88" для школьнікаў, які адбудзецца 27 мая ў Бельску.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**



*Дуэт з Беластока — Эва Ласкевіч і Кшыштоф Тарасюк.*

**М. Танк**

## РУКІ МАЦІ

**Іх цалавала зямля**
**Сваімі пясчанымі вуснамі**
**І каласамі;**
**Неба спякотай, вятрамі,**
**дажджамі**
**Іх цалавала.**

**Пража нямала**
**З іх выпіла ў ночы**
**бяссонныя**
**Свежасці ранняй.**
**Колькі яны запалілі**
**світанняў,**
**Зораў над намі.**

**Колькі сягоння на іх**
**Адшукаецца чорных,**
**глыбокіх**
**Шрамоў і маршчынаў,**
**Гэта сляды, што навекі**
**пакінуў**
**Шлях наш суровы.**

**Толькі заўсёды,**
**Як мы збераемся дамоў**
**І на стол пакладзе**
**рукі маці**
**Быццам ад сонца,**
**ад іх пасвятлее у хаце**
**І ў сэрцы.**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 220047, г. Мінск, ул. Несцерава, 88, к. I, кв. 16. Зіноўева Каця. 3 клас.

* ✻ *

СССР, 346506, Ростовская обл., г. Шахты-6, ул. Ильюшина, 26, кв. 64, Парамонова Оксана. 13 год. Любіць рукадзелле.

* ✻ *

СССР, 163019, г. Архангельск-19, ул. Декабристов, 11, кв. 9. Ивановой Тане. 5 клас.

* ✻ *

СССР, 344113, г. Ростов-на-Дону, Северный жилой массив, ул. Королёва, 30, кв. 41. Школа Оля. 6 клас. Любіць музыку і маляванне.

* ✻ *

БССР, 211840, Віцебская вобл., г. Паставы-2, вул. Касманаўтаў, 23, кв. 27. Германовіч Тані. 8 клас.

* ✻ *

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, вул. Набережная, 35. Казёл Зоя. 3 клас. (Зоя задае пытанні будучым сваім сябрам: якія кніжкі любіш чытаць, з кім сябруеш, як вучышся, чым захапляешся і чым любіш займацца?).

* ✻ *

СССР, 344114, г. Ростов-на-Дону, ул. Королёва, 25а, кв. 52. Кожан Оле. 6 клас.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* ✻ *

— Не паверыце, як наш Пятрок хутка лічыць. Бачыце, тое стада кароў. Раз-два вам палічыць.

— Немагчыма. Пятрок, колькі там кароў?

— Сорак сем.

— Сапраўды, як ты хутка палічыў? Гэта ж геніяльна. Скажыце, а як ён гэта робіць?

— У яго на гэта свой спосаб — ён лічыць ногі, а потым дзеліць на чатыры.

**Віктар Швед**

### ЧАМУ ГРЫБЫ Ў КАПЕЛЮШАХ

— Скажыце, малышы, —
Настаўніца пытае, —
Чаму капелюшы
Усе грыбочкі маюць?

Азваўся тут Арцём:
— Даўным-даўно вядома,
Яны ж капелюшом
Кланяюцца гномам.

### ВАСЯ ДВОЕЧНІК У КЛАСЕ

Раззлаваўся тата,
У хаце крамола.
Двойку зноў дахаты
Сын прынёс са школы.

— Тата, — кажа Вася, —
Ты не злуй так многа.
Іншым сёння ў класе
Не далі нічога.

### НЕ ДЛЯ ПСА КАЎБАСА

Маці прынясла прыпол
Ласункаў усялякіх.
Пагладае кот на стол,
Разам з ім сабака.

— Не для вас стала краса, —
Матуля сказала. —
Не для пса каўбаса,
Не для ката сала.

### ЧЭРЦІ ПРЫНЯСЛІ СУСЕДКУ

— Верце, ці не верце,
Дарагія дзеткі,
Тарабаняць чэрці
Зноў да нас суседку.

Пытаюць малыя,
Калі села ў крэсле:
— А дзе ж чэрці тыя,
Што цябе прынеслі?

## ВУЧНЁЎСКАЯ ТВОРЧАСЦЬ

### ПРА МАМУ

Мама заўсёды самы дарагі і самы блізкі чалавек. І я вельмі люблю сваю маму.

Калі яна прыходзіць з работы, у хаце робіцца святлей і цяплей ад яе весялосці, дасціпнасці.

Калі я была маленькай, мама любіла расказваць мне казкі пра дабро і зло. Цяпер я ведаю, гэтым яна вучыла мяне быць справядлівай. І размаўляе са мной як з сяброўкай, з'яўляецца самым строгім і прынцыповым маім суддзёй.

У мамы спакойны і добры характар, таму і сяброў у яе шмат. А яшчэ яна ўмее смачна гатаваць ежу, выпякаць. У гэтыя мінуты люблю быць з мамай на кухні.

Яна добра вяжа і мяне вучыць.

Часта ў размове мама тлумачыць, што нельга надаваць значэння дробязным крыўдам і спрэчкам, важна ўмець даравать адзін другому. Мама і сама такая ў жыцці. А працуе яна ўжо доўгі час у дзіцячым аддзяленні бальніцы, раздае ежу. Любіць сваю работу. Завуць яе Зінаіда Янцэвіч. Паважаюць яе ў калектыве за сціпласць, добразычлівасць, за чуласць і ўвагу.

І я ганаруся сваёй мамай.

**Наташа Янцэвіч, вучаніца 6 кл. школы № 3 з Нясвіжа, вул. Слуцкая, д. 6.**

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

Піша Табе вучаніца чацвёртага класа Данута Ільяшук. Я пішу ўжо да Цябе чацвёрты раз. Высылаю Табе свой верш і адгаданку.

**Адгаданка**

Упішы ў клетачкі лікі ад 1 да 9 так, каб сума ўсіх лікаў па гарызанталі, вертыкалі і дыяганалі раўнялася 15.



А вось мой верш

**Кветкі**

Ой, стагі, стагі
На лузе шырокім!
Вас не ахапіць,
Не акінуць вокам.
Красаваліся лугі кветкамі,
Касілі іх косамі,
А цяпер стаіце вы,
Стагі,
Пасярод лугу
Далёка друг ад друга.

**Данута Ільяшук, Кленікі.**

## АДГАДАНКА



Памажы слоніку прайсці праз лабірынт да пальмы.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1 „Зорка".

# ДЫЯЛОГ

Легкавічок з магутнага кпіў Зіла:
— Ну бегемот! Ну і вярзіла!
Не кожны руль паверне твой
Адной рукой...

Абшарпаны ты і стары,
Паіржавелі нумары...

Ну, а ў мяне — карункі на сядзенні,
У сінтэтычным руль адзенні,
Прыёмнік — музыкі крынічка,
А побач — запальнічка.

Зірні, як ззяе мой гадзіннік,
А гаспадар яшчэ казаў,
Што недзе нават халадзільнік
Ён у салон мой заказаў...

І газануў уперад з форсам,
Зіл стары са скрыпам следам
Адолеў паварот, крутую горку,
Забыўшыся на звяганне суседа.

І раптам — стоп! Вачам сваім
не верыць:
Ажно па ступіцы ў пяску
Засеў Легкавічок, ні ўзад ні ўперад,
І моліць з ноткай жалю ў галаску:
— Ах, гэта ты, Зілок,
Дапамажы, мілок.

*

Мараль адна, другіх і быць не можа:
Не ўсё заўжды надзейна, што прыгожа.

**Адам Капусцін**



# НІЎКА



### У ВЫНІКУ АБСТАВІН

Дождж — аж хлюпае. Мокры Кастусь увальваецца ў хату пасля рыбалкі.

— Клявала? — падступае жонка.

— Вось сказала, — буркнуў Кастусь. — Што яна табе — птушка? Рыба не клюе — бярэ.

— Ну, а брала?

— Яна б і ўзяла, ды за такой вялікай залевай і прынады не было відаць.

### АДПРАЦАВАЎ СВАЁ

— Чаму гэта ты толькі адзін дзень на службу выйшаў, а цяпер бібікі б'еш?

— Дык кажуць жа, што вясенні дзень год гадуе.



### НАДЗЕЙНАЯ ПРЫКМЕТА

— Скажыце, калі ласка, — спыняе задрыпанца прыезджы, — дзе тут у вас гарэлачны магазін?

— Ідзіце вуліцай. Як убачыце шмат рознай тэхнікі ля дарогі, о там і той магазін, — адказаў задрыпанец.

Рознабаковая асоба: думае адно, абяцае другое, а робіць трэцяе.

### З суседскага агародчыка
### У ПРАКОПА ЗАПЫТАЛІ...

— Дзядзька Пракоп! У вас багаты вопыт кіраўніцкай працы. Што галоўнае, па вашаму, у кіраўніцтве?

— Знайсці надзейнага падначаленага, — адказаў Пракоп.

*

— Пракоп, усе цяперака набываюць слоўнікі, энцыклапедыі, а ты ўсё захапляешся казкамі. Чаму так?

— Мая жонка і так усё ведае.

*

За вячэрай жонка папракае Пракопа:

— Ты так раздабрэў, і аніякага ўстрымання ў ежы.

— Добрага чалавека павінна быць многа, — буркнуў муж.

*

Дзяўчаты пыталіся ў Пракопа:

— Дзядуля, у вас багаты вопыт сямейнага жыцця. Скажыце, калі ласка, з чаго пачынаецца добры муж?

— З жонкі.

— А жонка?

— З мужа.

*

Сусед скардзіўся Пракопу:

— Мой сын інстытут скончыў, артыстам стаў. А зарабляе менш за дворніка. Урэшце-рэшт, хто з іх больш каштуе?

— Той, хто лепш працуе.

*Савелій Паўлаў*

### ГУМАР З БАРАДОЮ

### У СУДЗЕ

— Абвінавачаны назваў вас кароваю? Гэта слова я не лічу за знявагу.

— Дык у такім выпадку вы, пане суддзя, — бык...

### З „Весніка Задрыпоніі“

### СЛУЖБАЙ ДОБРАГА НАСТРОЮ

называюць у Ачуцінаве мясцовы камбінат бытавых паслуг. І не выпадкова. За што б не браліся ўмельцы гэтага прадпрыемства, вынік іх намаганняў прымушае заказчыкаў смяяцца да слёз.

### НАВІЧОК



— Я ж прасіў цябе выпусціць шасі, а ты што зрабіў?

### ВАРУХНІ ГАЛАВОЮ



Адна з шасці мазаік з'яўляецца дэталлю, якой бракуе на малюнку. Якая?

Адказ: цэнтральная з правага боку



# КУРЁЗЫ

### ЮРЫЙ ЦІМАШЭНКА (Тарапунька)

— Юра, навошта ты купіў сігарэты, калі кінуў курыць?

— Я не купіў, а знайшоў.

— Дзе?

— Тут у вас, на панадворку. На лаўцы.

— Цікава, хто іх пакінуў?

— Калі табе цікава, магу сказаць. Іх пакінуў кінарэжысёр Мікола Садковіч.

— Адкуль ты ведаеш?

— А я з-за дрэва бачыў, як ён іх потым шукаў.

### ВАЛЯНЦІН КАТАЕЎ

— Добра, Валянцін Пятровіч, апрача пісьменнікаў, мы запросім выступіць на вечары і акцёраў.

— Толькі не эстраднікаў. Драматычных акцёраў.

— Можа, Бранявога? У яго і камедыйны дар.

— А ён у якім тэатры?

— На Малой Броннай. Знаёміты Мюлер з „Сямнаццаці імгненняў вясны“! Вы ж бачылі.

— Не бачыў.

— Ніводнай серыі з дванаццаці?

— Вось менавіта. „Пінжак старшага брата“.

— Выбачайце, не зразумеў.

— Залішне шматсерыйны фільм я называю „пінжак старшага брата“. Для мяне ён завялікі.

*Я. Касцюкоўскі*




Каб стаць бессмяротным, трэба як мінімум памерці.